№. 2. Вільня, Панядзелак, 14 Сьнежня 1925 г. Год I.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл. Для заграніцы удвая даражэй.
Перамена адрэсу 30 гр.
Цана асобнага нумару 20 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Новы урад і яго пляны.

Урад Скшынскага атрымаў па Грабскім дужа няпрыемную спадчыну. Злот заламаўся і падае, даражыня расьце, лік безработных павялічваецца, вёска біднее, нездаволеньне шырокіх масаў людансьці ўзмагаецца.

Гэткае сумнае палажэньне Польшчы вытварыла многа прычын, а прадусім тое, што Польшч трымае ўрадоўцаў, войска і паліцыі больш, як можа ўтрымаць.

Праўда, усе польскія ўрады, асабліва-ж урад Грабскага, дабываючы грошы на гэтыя непадсілу сабе выдаткі, спадзяваліся прадусім на падаткі.

Аднак надзеі надзеямі, а жыцьцё жыцьцём.

Каб узяць з каго падаткі, дык трэба яму даць магчымаць плаціць іх. Тымчасам у Польшчы дагэтуль інакш дзеілася. Ня глядзячы на тое, што ў Польшчы 70% усяго насяленьня становяць сяляне, Польшч увесь час бадай сусім не зварачывала ўвагі на селяніна, а паддзержавала як магла, вялікі промысел. Аднак промысел гаспадарчай падпорай Польшчы ня змог быць, бо ён становіць галіну гаспадарчага жыцьця куды меншую за гаспадарку сялянскую і, рэч ясная, польскі промысел ня можа раўняцца загранічнаму. А праўдзівая апора польскай дзяржаўнай гаспадаркі, гаспадарка сялянская, Польшчай зусім спушчана з вока. Аж да астатніх дзён не праведзена зямельная рэформа, ня спынена на нашых зямлях асаднiцтва, якое зьяўляецца толькі запорай сялянскай гаспадаркі, не адбудаваны, зруйнаваныя вайной, вёскі. Словам, польская палітыка давяла сялянства да таго, што яно штораз то больш бяднее і робіцца няздольным плаціць гэтакія вялікія падаткі, якія на яго накладаюць.

В. Грабскі, бадай галоўны віноўнік сучаснага цяжкога палажэньня польскай гаспадаркі, ужо адышоў. У новым урадзе Скшынскага, яго месца, як міністар фінансаў, заняў Зьдзехоўскі, які 10 сьнежня ў Сойме прадставіў сваё пляны што да палепшаньня гаспадарчай хваробы Польшчы.

Пляны гэтага міністра дужа простыя: зьменшыць дзяржаўныя выдаткі, празначаныя на 1926 год на пяцьсот мільёнаў. Гэта зьменшаньне выдаткаў мае датычыць Міністэрства Спраў Унутраных, Вайсковых і Асьветы. Апрача таго мін. Зьдзехоўскі маніцца такжа паддзяржаць вялікі промысел, каб безработным даць работу.

Не спадзяёмся, каб гэтыя гаспадарчыя пляны новага ўраду, не зьмяняючы самой асновы дзяржаўнай гаспадаркі, ды маглі яе палепшыць.

Асабліва-ж не спадзяёмся, каб гэтыя пляны новага ўраду, ды маглі палегчыць цяжкае палажэньне агулам сялянства, бо на сялянскую гаспадарку не зварачвае ўрад гэты ніякой увагі.

Спадзяёмся, што пасьлы нашы, прадстаўнікі і кіраўнікі нядаўна арганізаванага „Бел. Сялянскага Саюзу“, з трыбуны Соймавай выкажуць каротказрочнасьць гаспадарчай палітыкі новага ўраду і шкоднасьць яе для сялянскіх працоўных масаў.

## З кім па дарозе?

У першым нумары „Сялянскай Нівы“ у стацьі „Патрэба спадзявацца прадусім на свае ўласныя сілы“, зьвярнуў я ўвагу беларускай палітычнай і грамадзкай думкі на тое, што для будучыны Беларускага Народу обавязкова патрэба, каб ён свой лёс браў у свае **ўласныя** рукі.

Цяпер яшчэ раз гэта паўтараю, бо датуль, пакуль наш народ ня будзе арганізаваны ў моцную адзінку, з уласнымі мэтамі, арганічна зьвязанымі з соцыяльнай душой беларуса-хлебароба, пакуль арганізацыя яго ня будзе аснавана на ўласных нагах, уласнымі спосабамі, пакуль беларусы будуць спадзявацца на некага, хто яго адродзіць, вызваліць і дасьць шчасьце, дасьць зямлю — датуль сапраўды шчыра ніхто з намі ня будзе лічыцца, датуль арганічна беларуская справа разьвівацца ня будзе, бо датуль апірацца яна будзе на гліняных нагах.

Аднак, цьвердзячы гэта, я не хачу сказаць таго, што Беларускі Народ павінен жыць выключна сваім жыцьцём, казаў-бы на выспе, старонячыся зусім зносін з суседзямі, не шукаючы ніякіх таварышаў сваей адраджэнскай і вызваленчай падарожы. Не, гэтага я ня цьверджу. Я толькі кажу, што нашаму народу ў яго гэтай падарожы больш спадзявацца на таварышаў, як на ўласныя ногі, асабліва, калі таварышы падарожы выбраны неразважна і зьяўляюцца мала пэўнымі, — былоб для яго чынам дужа неразважным і шкодным.

Словам, мы павінны шукаць сабе прыяцеляў, каб пры ўзаемнай дапамозе, супольнымі сіламі, здабываць свае палітычныя, культурныя і грамадзкія ідэалы. Але гэтыя прыяцелі мусяць быць для нас ведамы, што яны сапраўды могуць такімі быць.

Вот-жа на мой пагляд прыяцелямі гэтакімі могуць быць для нас беларусаў тыя суседнія народы, якія адносна да нас ніколі ня мелі ані заборчых, ані вынарадаўляючых імкненьняў. Такімі для нас суседзьмі зьяўляюцца народы Украінскі, Літоўскі, Латвійскі.

Праўда, Літоўскі народ, хоць ня поўную, але здабыў сабе незалежнасьць. Здабыў яе так-жа і народ Латвійскі. Ідзеля гэтага сучасныя кіраўнікі літоўскай і латвійскай палітыкі, на думку збліжэньня з недзяржаўнымі дагэтуль народамі беларускім і украінскім, дужа мала зварачваюць увагі. Яны бадай выключна падставу для свайго дзяржаўнага быту бачаць у вялікіх дзяржавах, ці ў так званай „Лізе Народаў“.

На мой пагляд літоўскія і латвійскія палітыкі ў гэтым памыляюцца. Бо, паводле жыцьцёвай асновы барацьбы за быт, дужэйшыя суседзяў слабейшых выкарыстаюць, або нават за свае вяліка-дзяржаўныя інтарэсы могуць прадаць інтэрэсы слабейшых. Словам, гэтая дарога няпэўная і небяспечная.

Мне здаецца, што суседзі — Літоўцы, Украінцы і Латышы, таварышы нядаўняй супольнай нявoлі, павінны дружна і папрыяцельску падаць сабе мазалістыя сялянскія далоні дзеля супольнага падтрыманьня і дзеля супольнай барацьбы за поўную і трывалую незалежнасьць сваіх народаў.

Пасол **Ярэміч.**

## Зямля.

А дзе-ж той выхад? дзе збавеньне
З няволі цяжкай, з палажэньня?
Адзін ён есьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ральля —
То — наймацнейшая аснова
І жыцьця першая умова.
Зямля ня зьменіць і ня зрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей сваіх ня кіне,
Зямля — аснова усей айчыне.

*З поэмы „Новая Зямля“.*
*Я. Колас.*

Пасьля роднае мовы найдарожшым скарбам кожнага народу ёсьць ягоная зямля. Важнае значэньне ў гісторыі народаў маюць месты, промысл, гандаль, але найвялікшае значэньне належыцца зямлі. Разумны чалавек, здабываючы, чаго яму не стае, адначасна стараецца захаваць тое, што ў яго ёсьць добрае. Гэтак і мы Беларусы павінны старацца адваяваць здэнацыяналізаваныя месты, цромысл і гандаль, але адначасна не дапусьціць да ўтраты роднае зямлі. Вялізарнае значэньне нацыянальнае тэрыторыі (зямлі) зразумелі нават раськіваныя здаўна па ўсім сьвеце жыды. Яны ўпорна імкнуцца да выкупленьня зямлі ў сваей старой бацькаўшчыне Палестыне, занятай цяпер Арабамі і іншыі народамі. На гэта жыды трацяць вялікія грошы і шмат энэргіі.

Беларускі народ мае адну вельмі здаровую і дарагую рысу ў сваей душы. Рысай гэтай ёсьць імкненьне да зямлі. Гэтая псыхіка нашага народу так старая, як стары ён сам, іначай кажучы, спрадвечная. Дзякуючы гэтай сваёй псыхіцы наш народ спрадвеку засяліўшы цяперашняю сваю Бацькаўшчыну, урабіў яе і не дапусьціў на яе чужнікоў. Гэта адбілася і ў нашых законах. У слаўнай памятцы беларускага права „Літоўскім статуце“ асобным разьдзелам забаронена было купляць чужнікам у нашым краю зямлю і быцьураднікамі (чыноўнікамі) ў нас. Ведаў наш народ, чаго яму трэба баяцца. З часам, калі вышшыя беларускія клясы, паны, зрадзілі свой народ, законамі тады ня можна было бараніць ад чужнікоў роднай зямлі. Але сам народ сваёй любасьцяй зямлі ўбараніў яе, ўбараніў яе тым, што даглядаў яе, як матку родную абняў, урабляў і ня выпушчаў, але і вельмі борзда пашыраў сваю зямельную уласнасьць. Дзе ня было балота, ня быў дворны ці скарбовы лес, там была ніва беларускага земляроба. Гэтакім парадкам чужнікам ня было куды ўпіснуцца. У Беларусь із чужнікоў толькі

